**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 13 (886) 30 сакавіка 2017 года. Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



Фота Глыбоцкі РАНС

Арганізацыі адпрацавалі на практыцы дзеянні ў выпадку ўзнікнення рэальнага пажару ў экасістэме раёна.



ISSN 2077-8023



### Сенненскі раён

## Зноў спешка і неразбярыха

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам чамусьці на многіх значных айчынных будаўнічых аб'ектах справы не ідуць зладжана і рытмічна.**

Вось і райцэнтр Дуброўна напярэдадні правядзення ў пачатку восені сёлета абласнога свята-кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2017" яшчэ не ўключыўся ў маштабную працу, хоць да яго пачатку засталося паўгода часу. З гэтай нагоды трывогу за выкананне ў тэрмін намечаных работ выказалі ўдзельнікі выязнога абласнога штаба па падрыхтоўцы "Дажынак" у Сянно. Толькі па абнаўленні аўтастанцыі актыўна пачалася праца яшчэ летась, зімой пачалі замену ліній электраперадач, пачалі добраўпарадкаванне чатырох галоўных вуліц горада. На большасці астатніх аб'ектаў праца па іх рэканструкцыі вядзецца марудна, бо не была гатова ўся праектна-каштарысная дакументацыя і не былі атрыманы неабходныя экспертызы. Зацягнуў з тэрмінам рамонту сваіх гандлёвых кропак і кафэ ў Сянно Белспажывсаюз. Сарваны тэрміны рэканструкцыі цэнтральнага ўнівермага. Зрываюцца раней намечаныя тэрміны рэканструкцыі СШ № 1, трох дзіцячых садоў, а аддзялення Белаграпрамабанка, медыцынскіх аб'ектаў і гарадскога стадыёна – яшчэ з-за таго, што яны знаходзяцца ў водаахоўнай зоне. Аднак актыўней іншых вядуць працу на абнаўленні цэнтральнай плошчы коштам 20 млн. новых рублёў, 26 дамоў жылфонда і прыдарожнай тэрыторыі работнікі райкамунгаса. У райцэнтры не абысціся без спешкі таму, што напрыканцы вясны тут пройдзе традыцыйны міжнародны фестываль мастацтваў "Дняпроўскія галасы".

### Полацкі раён

## Адна надзея на суд

■ Кастусь Александровіч

**Такога імклівага пагаршэння жыццёвага ўзроўню даўно не перажывалі жыхары глыбінкі і правінцыйных цэнтраў.**

Нават у адным з самых багатых гарадоў Беларусі Наваполацку сітуацыя змянілася ў горшы бок, бо са стратамі стаў працаваць мясцовы, нафтаперапрацоўчы завод "Нафтан". У сувязі са складанай фінансавай сітуацыяй прадпрыемства адмовілася аказваць спонсарскую дапамогу свайму футбольнаму клубу вышэйшай лігі. На шчасце, усё вырашылася на больш высокім сталічным узроўні. Руку дапамогі камандзе працягнуў канцэрн "Нелнафтахім", у чэмпіянаце Беларусі яна прадоўжыць гуляць у эліце, хоць і будзе самай беднай і недаўкамплектаванай. А вось многім маладым работніцам мясцовай гандлёвай сеткі "Базіс" няма на каго разлічваць. Ранейшы паспяховы гарадскі рытэйлер не вытрымаў канкурэнцыі, апынуўся на мяжы банкруцтва. Па гэтай прычыне з яго былых 12 магазінаў засталіся працаваць адзінкі, значную частка нерухомасці "Базіса" выставілі на продаж. З былога буйнога гандлёвага прадпрыемства з тысячай працуючых многія ўжо звольніліся, іншых адправілі ў водпускі за свой кошт. Свае цяжкасці ўзніклі і ў маладых работніц сеткі, якія сталі і мамамі і знаходзяцца ў водпуску па догляду за дзецьмі і ў дэкрэтным адпачынку. Аднак прадпрыемства не стане ім выплачваць патрэбную дапамогу на дзяцей у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам. Больш дзесяці маладых мам не сталі чакаць, калі ім вернуць даўгі па дэкрэтных выплатах і ад адчаю звярнуліся ў суд з іскамі. Іншая справа, што такія вось прадпрыемствы-банкруты множацца ў розных сферах з-за крызісу, таму няпроста жыць сем'ям з маленькімі дзецьмі.

### Аршанскі раён

## Закон што дышла

■ Станіслаў Раманчук.

**З пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў нашай краіне не было такіх масавых маршаў пратэсту і мітынгаў, як сёлета вясной супраць Дэкрэта № 3.**

Услед за іншымі беларускімі гарадамі зноў выйшлі на вуліцы людзі і ў Оршы, дзе перад распадам СССР нават перакрываліся чыгуначныя пуці пасля рэзкага росту цэн. На гэты раз прамысловы цэнтр "праславіўся" тым, што тут найболей было затрымана ўдзельнікаў акцый і, на жаль, журналістаў, якія выконвалі свае прафесійныя абавязкі. На словах у Беларусі нібыта гарантавана свабода слова, а на справе яшчэ на мясцовым чыгуначным вакзале міліцыянеры спынілі траіх прыехаўшых з Віцебска работнікаў СМІ. Праўда, людзі у пагонах дзейнічалі даволі ветліва, але адвялі ў залу павышанай камфортнасці супрацоўнікаў партала TUT. BY Таццяну і Ігара Мацвеевых, рэдактара "Народных навін Віцебска" Сержука Серабро для праверкі дакументаў. Гэта праверка доўжылася паўтары гадзіны, а затрымку патлумачылі нібыта тым, што "завіс" сервер" з базай дадзеных на правапарушальнікаў МУС. Яшчэ болей не пашанцавала журналістам, прыехаўшым з Мінска. Спачатку быў затрыманы тэлеаператар тэлеканала "Белсат", а потым на суткі ў камеру былі пасаджаны дзве жанчыны-журналісткі Кацярына Бахвалава з гэтага тэлеканала і Галіна Абакунчык, якая працуе на рэдакцыю Радыё Свабода. Іх пазней аштрафавалі на буйныя сумы за быццам непадпарадкаванне супрацоўнікам праваахоўных органаў. Арышт на 13 сутак атрымаў рэдактар мясцовага сайта, у Оршы прайшлі вобыскі ў офісе дэмакратычных актывістаў, што нега–тыўным чынам уплывае на імідж Беларусі ў свеце з-за падаў–лення свабоды выказвання думак мірным шляхам.

## Аб самым надзённым

### ВА ЎМОВАХ КРЫЗІСУ І ЗБЯДНЕННЯ НАСЕЛЬНІЦТВА Ў БЕЛАРУСІ МОГУЦЬ УВЕСЦІ СІСТЭМУ СТРАХАВАННЯ АД БЕСПРАЦОЎЯ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Ужо і наш Белстат не хавае, што ўзровень фактычнага беспрацоўя ў Беларусі летась склаў 5,8% ад эканамічна актыўнага насельніцтва, што ў 4 разы вышэй афіцыйна прызнанага. А ў дзяржавы ўсё меней цяпер грошай, каб падтрымаць людзей без працы…**

З канца сёлетняй зімы ў Беларусі невыпадкова сталі праходзіць даволі масавыя "маршы недармаедаў". Спачатку такая значная па колькасці ўдзельнікаў несанкцыянаваная акцыя прайшла ў Мінску, потым яны перакінуліся на абласныя цэнтры і буйныя гарады, а пазней сталі людзі гаварыць аб сваіх праблемах у невялікіх райцэнтрах. Прэзідэнт неўзабаве зноў стаў абвінячваць "пятую калону" ў нагнятанні абстаноўкі ўнутры краіны, а сілавікі даволі жорстка сталі затрымліваць актывістаў такіх пратэстных акцый, суды – караць суткамі арышту. У выніку такога вось абвастрэння палітычнай актыўнасці мас кіраўніцтва краіны адрэагавала прыпыненнем дзеяння ў гэтым годзе непапулярнага Дэкрэта № 3.

Дарэчы, да гэтага моманту падобны збор на фінансаванне дзяржрасходаў паспелі заплаціць каля 46 тысяч суайчыннікаў. Фактычна, гэта быў толькі адзін з дзесяці беларусаў, якім даслалі "пісьмы шчасця". У агульнай суме дзяржаўны бюджэт папоўніўся нязначнымі паступленнямі - амаль 14 млн. рублёў. Хоць першапачаткова нашы ўлады разлічвалі на большыя сумы, але калі вуліцы забурлілі, А. Лукашэнка даў указанні зноў перагледзіць катэгорыі асоб, якім пазней усё ж прыйдзецца плаціць гэты дзіўны падатак на "тунеядство". Прэзідэнт адначасова заняўся далейшай аптымізацыяй органаў дзяржкіравання і загадаў адсекчы ўсё лішняе, што плодзіць бюракратыю і перашкаджае дынамічнаму развіццю Беларусі.

Між тым дзяржапарат дзейнічае даволі зладжана, калі ўзнікла неабходнасць, то цэны на паліва крыху павысілі на ўнутраным рынку нафтапрадуктаў. Кіраўніцтва краіны адначасова катэгарычна забараніла скарачаць і звальняць работнікаў без узгаднення з мясцовымі органамі ўлады. А ў профільным Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны афіцыйна аб'явілі аб планах павышэння дапамогі па беспрацоўі да бюджэту пражытковага мінімуму (БПМ). Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра Андрэй Лабовіч. Па яговых словах, тым беларусам, каго звольняць у выпадку скарачэння колькасці альбо штату працуючых, такая дапамога павысіцца да 100 % БПМ.

Іншым работнікам, якія застануцца без працы па ўважлівых прычынах, плануецца плаціць да 50 % БПМ. Такую прапанову падтрымалі яшчэ два беларускія Міністэрствы фінансаў і эканомікі, а раней іх пра гэта выказваліся нашы прафсаюзы. Ва ўсялякім выпадку сам гэты дакумент ужо разглядаецца ва ўрадзе Беларусі, а неабходныя фінансавыя рэсурсы закладзены ў рэспубліканскі бюджэт. Канчатковага рашэння, ці западзе гэты механізм сёлета, а з наступнага 2018 года замест яго пачне дзейнічаць сістэма страхавання ад беспрацоўя, пакуль няма.

Справа ў тым, што чыноўнікі цяпер думаюць, як паступаць ім далей, бо ніхто іншы, як нязменны кіраўнік дзяржавы ў сваім стылі запатрабаваў да 1 мая працаўладкаваць усіх беспрацоўных беларусаў. Не здымаецца з парадку дня і іншая цяжкавыканальная задача давесці сярэднюю зарплату па краіне да 500 долараў. Дагэтуль дапамога людзям, якія страцілі працу, у нашай краіне была адной з самых мізэрных у свеце, у памеры каля 13 долараў. Калі будуць уведзены новыя правілы яе выдачы, то сярэдні памер новай страхавой дапамогі па беспрацоўі складзе 60 % ад сярэдняй зарплаты работніка. Яе планавалі выплочваць на працягу 26 каляндарных тыдняў ( спачатку 70 % ад заробку за першыя 13 тыдняў і 50 % - за наступныя 13 каляндарных тыдняў).

Як вядома, у эфіры аднаго з айчынных тэлеканалаў новы міністр працы і сацабароны Ірына Касцевіч паабяцала выканаць даручэнні главы дзяржавы. Аднак беспрацоўным беларусам на цуда няма чаго спадзявацца: свабодных вакансій на рынку працы па іх кваліфікацыі асабліва няма. Ім крыху дапамогуць зарабіць невялікія грошы і дадуць усім жадаючым накіраванні за аплочваемыя грамадскія работы: а гэта праца, дзе не патрабуецца асаблівай адукацыі і пэўнага ўмення. Звычайна гэта ўборка вуліц і добраўпарадкаванне тэрыторыі, догляд могілак, работы ў полі і ў лясных масівах, пераборка бульбы і гародніны, на што на месцах любілі прымусова пасылаць рабочых і служачых.

Адзін з важнейшых кіраўнікоў краіны Міхаіл Мясніковіч падчас рабочай паездкі на Брэстчыну прама сказаў, што на грамадскія работы трэба прыцягваць найперш тых, хто не працуе і свядома не хоча працаваць увогуле. Як бы там ні было, але відавочна, што намечаныя зверху меры праблемы з занятасцю насельніцтва і тым больш па выхадзе з крызісу не вырашаюць. Па падліках спецыялістаў, у чатырох дзясятках невялікіх беларускіх гарадоў і райцэнтраў ( у ліку іх Елізава, Смілавічы, Чысць, Лунінец, Варапаева, Лынтупы і нават Пліса на Глыбоччыне) цяпер на мяжы выжывання іх асноўныя горадаўтваральныя прадпрыемствы. Ужо і наш Белстат не хавае, што ўзровень фактычнага беспрацоўя ў Беларусі летась склаў 5,8% ад эканамічна актыўнага насельніцтва, што ў 4 разы вышэй афіцыйна прызнанага. А ў дзяржавы ўсё меней цяпер грошай, каб падтрымаць людзей без працы…

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 30.03.17 | | | | Пятніца 31.03.17 | | | | Субота 01.04.17 | | | | Нядзеля 02.04.17 | | | | Пн.03.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | -1 | +3 | 0 | 0 | +1 | +9 | +8 | +6 | +3 | +5 | +5 | +6 | +9 | +16 | +12 | +8 | +6 | +9 |
| Ціск | 748 | 752 | 756 | 756 | 754 | 747 | 745 | 745 | 747 | 750 | 751 | 751 | 749 | 748 | 747 | 743 | 741 | 742 | 747 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-З | 5 Пн | 4 Пн | 1 Пд | 5 Пд | 8 Пд-З | 7 З | 4 З | 3 Пн-З | 2 Пн | 3 Пд | 2 Пд-У | 4 Пд | 5 Пд-З | 7 Пд-З | 5 Пд-З | 4 З | 8 З | 8 Пн-З |
| Вільготнасць | 92 | 79 | 44 | 77 | 70 | 100 | 93 | 94 | 97 | 90 | 76 | 88 | 98 | 100 | 64 | 78 | 96 | 96 | 59 |

## Дзень за днём

**Беларусь стала плаціць за газ “саюзнай” Расіі, амаль як Германія. Пад пагрозай забароны на ўвоз у Расію апынуўся і беларускі сыр. Белстат упершыню назваў узровень рэальнага беспрацоўя – 5,8 %. Айчынныя банкі за год збяднелі яшчэ на 5,9 млрд. новых рублёў. Нацбанк Беларусі зноў знізіў стаўку рэфінансавання да 15 % гадавых. Без працы зараз больш 200 тысяч беларусаў. У студзені зарплаты знізіліся амаль на 81 рубль у 115 са 118 раёнаў Беларусі. Пасля маршаў пратэсту супраць дэкрэта аб “дармаедах” сталі судзіць найбольш актыўных іх удзельнікаў. Навучальны год для старшакласнікаў зробяць крыху карацейшым.**

# Важнейшыя навіны свету

**Саудаўская Аравія**. Нафтавая дзяржаўная кампанія Saudi Aramco рэзка знізіла кошт нафты на ўсе гатункі для ўсіх кліентаў, асабліва – у Азіі, вырас экспарт нафты з ЗША.

**ЗША.** Дзяржсакратар Рэкс Тыллерсан пацвердзіў, што ЗША разам з саюзнікамі будуць супрацьстаяць краінам, якія пагражаюць сваім суседзям і дэстабілізуюць свае рэгіёны.

**Англія.** Палата лордаў запатрабавала ад урада краіны захаваць жорсткі курс і санкцыі супраць Расіі, пакуль Масква не выканае свае абавязацельствы перад Украінай.

**Бельгія.** Намеснік камандуючага сіламі НАТО ў Еўропе брытанскі генерал А. Брэдшоу заклікаў альянс да гібрыднага стрымлівання ваенных пагроз і кібератак з боку Расіі.

**Расія.** Экс-дарадца Пуціна А. Сыцін заявіў, што Крэмль канчаткова не вырашыў, як весці адносіны з Беларуссю, але так ці інакш яна стане ахвярай гібрыднай агрэсіі з боку РФ.

**Украіна.** ГРУ Міністэрства абароны паведаміла, як аўтамабіль аховы главы сепаратыстаў “ДНР” урэзаўся ў людзей на прыпынку ў Данецку, забіў чалавека, ДТЗ хацелі скрыць.

**Германія.** Глава Міністэрства замежных спраў Зігмар Габрыэль заявіў, што ўзброеная супрацьстаянне ў Данбасе закранае не толькі ўкраінцаў, але і кожную краіну ў Еўропе, мір там патрэбен еўрапейцам.

**Францыя**. Група кампаній PSA Peuqeot Citroen купіла ў амерыканскага канцэрна General Motors за 2,2 мільярда еўра нямецкую аўтакампанію Opel з яе заводам у Англіі.

**Шатландыя.** Першы міністр краю М. Стэрджэн пацвердзіла, што новы рэферэндум аб выхадзе шатландцаў са складу Вялікабрытаніі можа адбыцца восенню 2018 года.

**Расія.** Фонд па барацьбе з карупцыяй А. Навальнага апублікаваў звесткі аб шматлікіх палацах, яхтах, іншых актывах, якімі валодае глава “Адзінай Расіі” Д. Мядзведзеў.

**Кітай.** Краіна прадставіла мэтавы крэдыт уладам Ірака на закуп узбраенняў у суме 1,5 мільярда долараў, на ваеннай выставе ў ААЭ прадставіла навейшы кітайскі танк VT-4.

**Расія.** У расіян, па апытаннях сацыёлагаў, значна змяніліся грамадскія настроі, яны меней сароміцца беднасці, рэпрэсій, адставання ад Захаду, але ганарацца анексіяй Крыма.

**Латвія.** Служба пагранічнай аховы пацвердзіла, што на праблемных участках граніцы з Беларуссю з’явіцца металічны плот вышынёй 2 метры з калючым дротам.

**Малдова.** У першым чытанні законапраекта дэпутаты парламента непрызнанай “ПМР” вырашылі зацвердзіць расійскі трыкалор другім дзяржаўным сцягам псеўда-рэспублікі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканаміст Я. Раманчук заявіў, што відавочна наменклатурна-алігархічная мадэль інтэграцыі з Расіяй у ЕАЭС і праект “Саюзная дзяржава” з трэскам праваліліся.

**Добруш.** У двары свайго дома ў райцэнтры загінула вечарам ад чэрапна-мазгавых траўм 58-гадовая пенсіянерка, яе ў сварцы так моцна збілі тры мясцовыя жанчыны без працы.

**Мінск.** Без сістэмных рэформ, як папярэдзіў эканаміст Л. Злотнікаў, заробкі беларусаў упадуць яшчэ болей, бо пачаўся крызіс усёй неэфектыўнай эканомікі, як на Кубе і КНДР.

**Крычаў.** У раёне зафіксаваны самы высокі ў Беларусі ўзровень беспрацоўя, 1,6 % да эканамічна актыўнага насельніцтва, падобная сітуацыя таксама і ў Лідзе, Мастах.

**Мінск.** Выйсці нам з ЕАЭС, як папярэдзіў палітолаг А. Класкоўскі, не атрымаецца, бо Расія адразу прыменіць тут у Беларусі Крымскі альбо Данбаскі сцэнарый.

**Гомель.** Сацыяльны пратэст супраць дэкрэта № 3, як пацвердзіў палітолаг П. Быкоўскі, супаў з ідэйным у Курапатах на фоне рэальных праблем на рынку працы, у вытворцаў.

**Мінск.** А. Лукашэнка загадаў прапісаць у новых падручніках гісторыю станаўлення дзяржаўнасці ў Беларусі, пачынаючы з часоў Полацкай зямлі ў сярэдзіне IX стагоддзя.

**Баранавічы.** Лідар акцыі “дармаедаў”, магістр міжнароднай эканомікі М. Стрэльчык заявіў, што людзі выйшлі на вуліцы з-за пачуцця безвыходнасці, жыцця ў такой галечы.

**Мінск.** Для беларусаў, як заявіў эканаміст Я. Раманчук, наступаюць “чорныя дні”, бо многім прыйдзецца адмовіцца ад ранейшага рэжыму спажывання, жыць вельмі эканомна.

**Барысаў.** Міністэрства абароны Беларусі пацвердзіла, што прама на пляцу 72-га аб’яднанага вучэбнага цэнтра ў Пячах памёр салдат-дэсантнік, якому раптам стала дрэнна.

**Мінск.** Палітолаг Д. Галко заявіў, што перагляд адносін дзяржавы да месца Курапаты трэба вітаць, бо гэта – процiядзе супраць паўтарэння Беларуссю лёсу Данбаса.

**Курапаты.** Лаўрэат Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч заявіла, што каб такое было ў Варшаве, то ўся Варшава была б у Курапатах, як і Вільня, грамадству трэба прачнуцца.

**Лунінец.** З-за складанай эканамічнай сітуацыі з прадпрыемства “Палессеэлектрамаш” з 540 працуючымі звольніліся з канца восені больш 10 кіраўнікоў і галоўных спецыялістаў.

**Брэст.** Пасля поспеху з мужчынскімі шкарпэткамі панчошны камбінат выпусціў у кансерваваных банках і драўляных скрыначках і падарункі-сюрпрызы для жанчын.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З трохдзённым рабочым візітам абласны цэнтр наведала дэлегацыя з кітайскага горада Харбін і прапанавала варыянты прамых паставак лёну з Віцебшчыны ў Кітай.

**Паставы.** Самую буйную ў Беларусі падстанцыю з электракацельняй магутнасцю 330 кВ, адзін з 23 комплексаў узводзімай АЭС у Астраўцы ў маі запусцяць пад напружанне.

**Верхнядзвінск.** На мясцовым масласырзаводзе запусцілі ў эксплуатацыю новую сучасную поўнасцю аўтаматызаваную аўстрыйскую лінію па вытворчасці сыроў.

**Наваполацк.** Ноччу падчас пажару ў адным з інтэрнатаў горада, дзе загарэлася канапа на карыдоры, наглыталася дыму і патрапіла ў бальніцу 2-гадовая дзяўчынка.

**Ушачы.** На выязны прыём да старшыні парламента У. Андрэйчанкі прыехалі і работніцы Талачынскага элеватара, не згодныя з яго далучэннем да Аршанскага аграхолдынга.

**Браслаў.** У ліку 8 раённых цэнтраў краіны кампанія МТС упершыню на Віцебшчыне запусціла ў горадзе сувязь 4G з хуткасцю мабільнага інтэрнэта LTE да 112 Мбіт у секунду.

**Докшыцы.** У кінаканцэртнай зале “Іскра” прайшоў чарговы злёт перадавікоў народнай гаспадаркі па выніках дзейнасці раёна летась з удзелам гасцей з Ушач, Мядзела і Лагойска

**Фарынава.** Днём невядомы мужчына з электрашокерам напаў на жанчыну-касіра і абрабаваў аддзяленне “Беларусбанка”, забраў з касы 10,5 тысяч рублёў і знік.

**Мёры.** У адразу трох жыхароў вёсак Зачарэўе, Каменполле і раённага цэнтра міліцыя знайшла і канфіскавала малакаліберныя вінтоўкі, супраць іх распачалі крымінальныя справы.

**Верхнядзвінск**. Каля апоўначы ў аграгарадку Шайцерава польская фура Scania збіла насмерць на трасе Полацк – граніца Латвіі 23-гадовага вяскоўца хлопца без флікераў.

**Глыбокае.** Глыбокай ноччу ў райцэнтры па нявысветленых прычынах загарэлася павець побач з домам, у выніку пажару агонь знішчыў дах, пашкодзіў столь.

**Наваполацк.** Міліцыя пачала праверку начнога здарэння, калі навучэнец аднаго з каледжаў Віцебска саскочыў з маста ў раку Заходняя Дзвіна і ледзь не загінуў.

**Шаркаўшчына.** На прайшоўшым у Віцебску міжнародным турніры па таэквандо мясцовы атлет Іван Хвяцковіч перамог у катэгорыі да 61 кг і стаў кандыдатам у майстры спорту.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Каму яшчэ варта паставіць помнік на Алеі славутых землякоў?

**Усе ведаюць пра глыбоцкую Алею славутых землякоў, дзе ўсталяваны бюсты славутых глыбачан. А каму б яшчэ, на вашу думку, варта ўсталяваць бюст на гэтай Алеі?**



**Зміцер Бартосік, Мінск:**

– Дуж-Душэўскаму, адназначна. Я быў у здзіўленні, што на Алеі няма яго бюста. А ён там павінен быць адным з першых. Ён распрацаваў эскіз першага сцяга незалежнай Беларусі, гэта адзін з пачынальнікаў беларускай незалежнай дзяржавы. Шмат у чым дзякуючы яму мы зараз маем пашпарты суверэннай дзяржавы. Атрымоўваецца, дзяржава ёсць, а помніка яму няма да гэтага часу.



**Яраслаў Берніковіч, Глыбокае:**

Дуж-Душэўскаму. Шыльда на доме па вуліцы Горкага яму ўсталявана, гэта добра, але і помнік таксама павінен быць. Ён шмат зрабіў не толькі для Беларусі, але і для суседняй Літвы.



**Андрусь Храпавіцкі, Вільня:**

– Тадэвушу Даленга-Мастовічу, Клаўдзію Дуж-Душэўскаму або Паўліне Мядзёлцы. Хоць там ужо асабліва няма куды ставіць новыя бюсты. Але неабавязкова, каб гэтыя помнікі стаялі ў адным месцы, можна паставіць дзе і ў іншай частцы горада.



**Таццяна Смоткіна, Глыбокае:**

– Вядома, найперш трэба паставіць помнік Дуж-Душэўскаму. Адной шыльды на доме тут мала. Таксама сястра Тадэя вартая таго, каб ушанаваць яе памяць. Яна шмат зрабіла для адукацыі дзяўчат горада, але зараз глыбачане незаслужана забыліся пра яе заслугі.



**Генадзь Плавінскі, Глыбокае:**

– Паўліна Мядзёлка вартая таго, каб яе бюст стаяў у Глыбокім. Юры Зяновіч таксама. Не абавязкова, каб іх бюсты былі на Алеі, можна дзе і ў іншым месцы. Напрыклад, Паўліне Мядзёлцы можна было б паставіць каля мастацкай школы. А яшчэ я б хацеў, каб была ўсталявана памятная шыльда фундатару храмаў Іосіфу Корсаку на сцяне храма Прасвятой Багародзіцы. Для біостаў зараз магчыма і сродкаў няма, а вось каб усталяваць памятную дошку, шмат грошай не трэба, патрэбна толькі жаданне.



**Віктар Дудкевіч, Глыбокае:**

Стваральніну глыбоцкага дэндрапарку Віктару Ламаку. Таксама варта ўшанаваць памяць аграномa Баляслава Лапыра, бо Вішнёвыя фэсты штогод праходзяць, і ў той славе, што займела глыбоцкая вішня, вялікая заслуга гэтага чалавека. Яшчэ нядрэнна было б паставіць бюст глыбоцкаму кавалю Аляксандру Дубіну, які быўпачынальнікам адраджэння кавальскага майстэрства, прычым не толькі ў Глыбокім.

*АпытваўЗміцер Лупач*

# Расейцам не спадабаўся глыбоцкі сыр!

**РФ забараніла ўвоз сыра пасля правядзення дзяржаўнага лабараторнага маніторынгу.**

**Аб гэтым гаворыцца ў паведамленні Россельгаснагляду.**

“Па выніках дзяржаўнага лабараторнага маніторынгу, ажыццёўленага ў пунктах папярэдняга апавяшчэння “Чырвоная Горка” і “Чырвоны Камень”, былі выяўлены партыі сыроў, якія паступаюць з Рэспублікі Беларусь, не адпаведныя патрабаванням тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза. Аднак вытворцы харчовай прадукцыі не прынялі неабходных мер па выпраўленні сітуацыі”, – заявілі ў ведамстве.

У выніку Федэральнай службай па акрэдытацыі прыпынена дзеянне дэкларацый аб адпаведнасці на малочную прадукцыю.

Рашэнне датычыць наступных відаў прадукцыі:

– сыр “Раўбіцкі” вытворчасці філіяла ААТ “Рагачоўскі малочнакансервавы камбінат”,

– сыр “Тыльзітэр” гэтага ж вытворцы,

– сыр “Беларускае золата” вытворчасці “Ашмянскага сыраробнага завода” філіяла ААТ “Лідскі малочна-кансервавы камбінат”,

– сыр “Альпійскі” гэтага ж вытворцы,

– сыр “Гройцер” вытворчасці Браслаўскага філіяла **ААТ “Глыбоцкі малочнакансервавы камбінат”**.

*lenta.ru*

# Ад наўмысных дзеянняў асобных грамадзян выгарае ўсё жывое, лепшае і карыснае



**Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Зямля вызвалілася ад снегу, падсыхае леташняя трава, быльнік. Леташнія не абкошаныя ўчасткі палёў, прагалаў, пустак пакуль не цешаць вока. Але трэба трохі патрываць: трава зусім хутка зазелянее і прырода сама сябе адновіць. Сярод быльніка праз год-другі з’явяцца дрэўцы, ягады, грыбы, паселяцца лясныя насельнікі, птушкі.**

Выпальванне сухой расліннасці ці, як іх завуць, вясновыя палы, наносяць вялікую шкоду навакольнаму асяроддзю. Ад неабдуманых ці наўмысных дзеянняў асобных грамадзян выгарае ўсё жывое, лепшае і карыснае, тыя ж сасёнкі, бярозкі, асінкі. Гараць лесаахоўныя насаджэнні ўздоўж дарог, лес. Не выгараюць і тут жа аднаўляюцца быльнік, атрутны баршчэўнік, лаза.

А колькі шкоды наносяць гэтыя пажары жывёльнаму свету: выгараюць птушыныя гнёзды, гінуць вожыкі, вужы, розныя віды казурак, земнаводных і іншыя браты нашы меншыя.

За незаконнае выпальванне сухой расліннасці, травы на корані, а таксама ржышча і пожніўных рэштак або непрыняцце мер па ліквідацыі палаў на зямельных участках прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па артыкуле 15.57 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь, якая цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да сарака базавых велічынь.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету звяртаецца да грамадзян аб недапушчэнні вясновых палаў. Просім паведамляць інфармацыю аб падпальшчыках ці іншых парушальніках прыродаахоўнага заканадаўства на тэлефон “гарачай” лініі інспекцыі (802156) 5-59-70, кругласутачна ці на мабільныя тэлефоны: МТС 897-23-02, МТС 890-55-28, МТС 249-45-49, МТС 645-66-78.

**Загадзя Вам удзячныя.**

# Пракуратура выявіла шэраг парушэнняў пры ахове гісторыка-культурнай спадчыны ў Віцебскай вобласці ў тым ліку і ў Глыбокім

**Сяржук Серабро**

**Праведзеныя ў Віцебскай вобласці органамі пракуратуры праверкі выявілі цэлы шэраг парушэнняў у сферы аховы помнікаў архітэктуры, горадабудаўніцтва, гісторыі і археалогіі.**

У выніку гэтых праверак, напрыклад, было выяўлена, што некаторыя аб’екты знаходзяцца ў недагледжаным, нездавальняльным тэхнічным і санітарным стане і маюць патрэбу або ў рамонце, або ў кансервацыі. Такія недагляды праверяючыя знайшлі ў Полацку, Аршанскім, Шаркоўшчынскім і іншых раёнах.

Таксама выявілася, што не ўсе ўласнікі і ўладальнікі гісторыка-культурных каштоўнасцей у Віцебску, Браслаўскім, **Глыбоцкім** і Аршанскім раёнах падпісалі адпаведныя ахоўныя абавязанні.

У той час не ўсе выконваюць патрабаванні дзейснага заканадаўства і ахоўных абавязанняў, у тым ліку пры афармленні пашпартоў і ўсталяванні ахоўных дошак на аб’ектах гісторыка-культурнай спадчыны, напрыклад, у Шумілінскім, Талачынскім, Аршанскім і Полацкім раёнах. На шматлікія аб’екты гісторыка-культурнай спадчыны не распрацавана праектная дакументацыя зон аховы з рэжымамі іх утрымання і выкарыстання




(Віцебскі, Дубровенскі, Расонскі, Талачынскі і іншыя раёны).

Пры гэтым службовыя асобы выканаўчай улады практычна не выкарыстоўваюць паўнамоцтвы па вядзенні адміністрацыйнага працэсу па фактах невыканання патрабаванняў ахоўных абавязанняў і іншых недахопаў у сферы аховы гісторыка-культурнай спадчыны, адзначаецца ў заяве Генеральнай пракуратуры.

У мэтах ухілення выяўленых парушэнняў пракурорамі гарадоў і раёнаў былі занесеныя ў мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы 19 актаў пракурорскага нагляду. Акрамя таго, пракуратурай Віцебскай вобласці ў Віцебскі аблвыканкам накіравана адпаведнае прадстаўленне, у якім запатрабавана ўхіліць выяўленыя парушэнні заканадаўства, а таксама разгледзець пытанне пра прыцягненне вінаватых асобаў да дысцыплінарнай адказнасці.

# У Глыбоцкім раёне дачнікі чысцілі сажалку і знайшлі міну, якой больш за сто гадоў

**Жыхары вёскі Шэпелева ў Глыбоцкім раёне чысцілі сажалку на дачы і знайшлі металічны прадмет, падобны на снарад, паведамляе прэс-служба міліцыі рэгіёну.**

Дзяжурны па Глыбоцкім ваенкамаце выклікаў сапёрна-піратэхнічную групу вайсковай часці 5530. Прыбыўшы на месца здарэння, спецыялісты паднялі з глейкага дна нямецкую мінамётную міну ўзору 1916 года.

Небяспечную знаходку, выпушчаную больш стагоддзя таму, знішчылі ў кар’еры.

*tut.by.*

# “Белавіа” з 9 чэрвеня плануе пачаць выконваць рэйсы з Віцебска ў Калінінград

**Авіякампанія “Белавіа” з 9 чэрвеня плануе пачаць выконваць рэйсы з Віцебска ў Калінінград. Адпаведная інфармацыя размешчана на сайце аэрапорта Храброва (Калінінград), паведамляе БелТА.**

Паводле дадзеных аэрапорта, у летнім раскладзе палётаў Храброва будуць дзейнічаць пяць новых унутрырасійскіх і міжнародных кірункаў. Адным з іх стане арганізацыя рэйсаў з Віцебска ў Калінінград. Адкрывае гэты кірунак беларускі авіяперавозчык “Белавіа”, рэйсы будуць ажыццяўляцца з чашчынёй два разы на тыдзень, па пятніцах і нядзелях.

Акрамя таго, з траўня “Белавіа” пачне выконваць рэйсы ў Ніжні Ноўгарад. Яны будуць выконвацца з чашчынёй чатыры разы на тыдзень (вылеты з Мінска па панядзелках, серадах, пятніцах і суботах).

“Белавіа” з’яўляецца найбуйным авіяперавозчыкам Беларусі, ажыццяўляе рэгулярныя рэйсы па 49 маршрутах у 27 краін Еўропы, СНД і Азіі.

*Кар. БелТА.*

# У Глыбокім гарэла пiларама

**22 сакавіка ў 0:58 пажарнікі атрымалі паведамленне пра ўзгаранне на тэрыторыі піларамы на Фізкультурнай вуліцы ў Глыбокім.**

У выніку пажару на піларaме быў пашкоджаны адзін кубаметр дошак, у сушылцы пашкоджаныя сцены і столь. Прычына пажару ўсталёўваецца, паведамляе прэс-служба МНС.

*ННВ.*

# З-за браканьера ў Бярэзінскім запаведніку загінуў мядзведзь

**Сяржук Серабро**

**У Бярэзінскім біясферным запаведніку мядзведзь стаў ахвярай браканьера, які ставіў петлі ў лесе ля вёскі Рожна Лепельскага раёна.**

Мядзведзь патрапіў у адну з петляў. Аднак браканьер не вырашыўся забраць свой трафей, і туша жывёлы стала здабычай драпежнікаў і падальшчыкаў. А касцяныя рэшткі былі выяўлены інспектарамі Бягомльскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

У Беларусі буры мядзведзь занесены ў Чырвоную кнігу, а акрамя таго – з’яўляецца аб’ектам Канвенцыі аб міжнародным



гандлі відамі дзікай фауны і флоры, якая знаходзіцца пад пагрозай знікнення.

Шкода, прычыненая прыродзе, 55 200 рублёў. Цяпер вырашаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па факце незаконнай здабычы жывёлы і вядуцца аператыўна-следчыя мерапрыемствы па пошуку браканьераў, вінаватых у гібелі мядзведзя, паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Беларускі лён Дзісненскага павету куплялі датчане, нарвежцы, англічане, французы



Яшчэ будучы студэнтам гістфака БДУ мой сын Сяргей свае курсавыя працы пісаў на тэму "Гісторыя горада Дзісны і яе ваколіц". Матэрыяламі былі апытанне старэйшага пакалення і архіўныя матэрыялы. У архіве ён знайшоў такія звесткі, што 200-250 год назад ужо тады льновалакно Дзісненскага павету карысталася вялікім попытам на сусветным рынку, бо яно было выдатнай якасці і ішло на палатно для ветразяў (парусов). Ветразі працавалі ў вільготным і салёным асяроддзі і хутка знашваліся. Льновалакно Дзісненскага павету куплялі датчане, нарвежцы, англічане, французы.

У мінулыя часы сяляне не залежачы ад велічыні зямельнага надзелу ў абавязковым парадку сеялі лён, бо абутак, адзенне, розныя сельскагаспадарчыя прыстасаванні вырабляліся з ільновалакна. Яно ж прыносіла грашовыя паступленні. Да прыкладу, за польскім часам пуд зерня жыта каштаваў 2 злотыя, а пуд ільносемя – 12 злотых. У майго бацькі было 3,5 гектара зямлі. На такім участку патрэбна было гадаваць каня, карову, парася, птушак і 6 душ сям'і. Бацька кожны год пад лён адпускаў 30 сотак.

Агратэхніка догляду лёну, асабліва для атрымання добрага ўраджаю, а інакш навошта яго сеяць, перадавалася з пакалення ў пакаленне і беспярэчна выконвалася. Хто меў большыя зямельныя ўчасткі, тыя сеялі шмат ільну з мэтай продажу і атрымання грошай. Я ўжо пісаў у "ВГ", як за 10 год з 1923 да 1933 года парабак пана Якавіцкага Казлоўскі кожны год вырошчваў лён на запашцы, а потым назапасіў грошай і выкупіў у Якавіцкага 20 га зямлі, стаў фермерам, кулаком і ў 1939 годзе загрымеў у Архангельскую вобласць на лесараспрацоўкі.

Асабіста я ўпэўніўся ў тым, што мужыкі сеялі шмат ільну ў 1948 годзе. У той час акрамя грашовага падатку быў натуральны падатак. У залежнасці ад памеру зямельнага надзелу неабходна было "прадаць" дзяржаве пэўную колькасць зерня, мяса, малака, бульбы, гародніны, воўны. Дазвалялася замест зерня жыта здаваць іншыя культуры па пэўным каэфіцыенце. За 1кг ільносемя залічвалася 3кг жыта. Напярэдадні калгасаў бацька вырашыў здаць 40 кг ільносемя, якое трымаў як насенне. Мы з бацькам павезлі здаваць "пастаўку" зерня, у т.л. і гэтыя 40 кг ільносемя. Калі адчынілі свіран, дзе захоўвалася льносемя, яго было там так шмат, што на кучы ляжалі паходні з дошак. Мяшок патрэбна было па гэтых паходнях занесці наверх і там яго высыпаць. Я, 14-гадовы хлапчук, угаварыў бацьку дазволіць мне выконваць гэту працэдуру. Калі я падняўся да вяршыні і сабраўся высыпаць мяшок, то сарваўся з паходняў і ў момант па грудзі пагрузіўся ў кучу льносемя, паспеўшы грудзьмі наваліцца на паходню. Мужыкі мяне выцягнулі.

Я да чаго гэта? Калі навакольныя мужыкі г. Дзісны здалі дзяржаве столькі льносемя, то гэта гаворыць аб тым, што сеялі лёну шмат, вельмі шмат.

Спярша шмат ільну сеялі і ў калгасах. Вырошчвалі добры ўраджай ільнотрасты. Траста перапрацоўвалася ў ільновалакно добрай якасці. Плацілі добра.

Асноўныя грашовыя паступленні ў калгасную касу былі ад пастаўкі льновалакна. Перападала і на зарплату. Мая мама Фёкла Купрыянаўна была звеннявой па лёне. Зімой на кані перыядычна аб'язджала калгаснікаў, збірала попел для барацьбы з блошкай. Гэта было пры шматлюдных калгасах.

Дэфіцыт працоўнай сілы адбіўся на вырошчванні лёну.



Спачатку перайшлі на вырошчванне трасты. Але настаў момант, калі і трасту вырошчваць стала некаму. Гэту высокапрыбытковую галіну перадалі льнозаводам. Функцыя льнозавода – перапрацоўка сыравіны. Неабходная колькасць добрай ільнотрасты заводу вырошчваць не пад сілу. А таму маем тое, што маем.

"Міёрскія навіны" за 31.01.2017г у артыкуле "Даўгунец пад вальцамі. Што на выхадзе?", чытаю: "Дырэктар Аляксандр Міхайлаў адзначыў, што з добрым настроем рыхтаваліся да пасяўной. Адрамантавалі тэхніку. Закупілі нямала матачнага (самага якаснага) насення. Прыклалі старанне падчас сяўбы. Занялі ільном 850 гектараў арэндных земляў і яшчэ 100 га засеялі "даўгунцом" ААТ "Мерыца" і "Гвардзейскі". Але ў чэрвені зразумелі, што не ўсё залежыць ад руплівасці і старання чалавека". Па словах дырэктара, усё зроблена ў лепшым выглядзе. Але далей даведваемся, што абсталяванне па перапрацоўцы не проста зношанае, а вельмі зношанае. На такім абсталяванні нават з добрай трасты атрымаць высакаякаснае доўгае валакно немагчыма, бо даводзіцца паўторна праз мялку прапускаць дрэнна змятую трасту. Не тое, каб абсталяванне замяніць, не было фінансаў нават яго адрамантаваць.

Як звычайна, у падобнай сітуацыі адказвае прырода. На 152-х гектарах лён загінуў. На большасці засеяных палях з-за недастатковасці вільгаці насенне ўзышло ў розныя тэрміны. Адна частка насення абышла ў канцы мая, другая - у пачатку чэрвеня, трэцяя – у сярэдзіне чэрвеня. У выніку восенню на адным і тым жа полі быў лён рознай стадыі спеласці. Гэта можна растлумачыць тым, што лён вясной высявалі ў дрэнна падрыхтаваную глебу. Я падлеткам памятаю, як бацька глебу пад лён рыхтаваў так старанна, каб яна была як пух, бо насенне лёну павінна знаходзіцца ў глебе на глыбіні 2-3см. А пры ўзорванні, пры дэфіцыце паліва падрыхтаваць так зямлю вельмі праблематычна і немагчыма.

Чытаю: "Не сакрэт, што не змаглі забяспечыць у поўнай патрэбе і сілкаванне лёну пажыўнымі рэчывамі, а гэта, між тым, немалаважны фактар для атрымання якаснай трасты". Як вынік - восенню ў фізічнай вазе атрымалі 1864 т трасты, сярэднім нумарам 0,66. У 2015 годзе якасць трасты была 0,89, у 70-х гадах было да 9000 т нумарам 1-1,2.

Кожны дзень завод выпрацоўвае 1,5-2 тоны кароткага валакна і толькі 100-150 кг доўгага. Але і доўгае нізкай якасці, таму што яно не аднолькавага колеру, з прымессю зялёнага колеру. Яно належыць сарціроўцы. Кароткае валакно не мае попыту, таму няма збыту, завод працуе на склад. Сярэдні нумар сёлетняга валакна – 10, пажадана б мець хоць бы 11-12.

Высокапрыбытковая галіна аграпрамысловасці – лён, як ужо бачна, прыносіць не прыбытак, а вялікія страты. Тады адкуль жа браць грошы? Караем людзей, якія вядуць "дармаедскі" лад жыцця. А тут цэлае прадпрыемства, якое павінна даваць вялікі прыбытак, – "дармаед".

# Комплекс мер па развіцці экатурызму да 2025 года зацверджаны ў Беларусі



Балота Ельня, Мёрскі раён.

**Комплекс мер па развіцці і пасоўванні экалагічнага турызму на асоба ахоўваных прыродных тэрыторыях да 2025 года зацверджаны ў Беларусі, паведамілі карэспандэнту БелТА ў Нацыянальным агенцтве па турызме.**

Дакумент вызначае асноўныя задачы для ўсіх зацікаўленых па развіцці і пасоўванні экалагічнага турызму. У прыватнасці, мяркуецца стварэнне брэнда для кожнай асоба ахоўванай прыроднай тэрыторыі, уключанай у пералік перспектыўных для развіцця экалагічнага турызму, фармаванне турыстычнай інфраструктуры, будаўніцтва і забеспячэнне функцыянавання візіт-цэнтраў (экалога-адукацыйных, турысцка-інфармацыйных, экатурыстычных), распрацоўка і ўкараненне трансмежных турыстычных маршрутаў па асоба ахоўваных прыродных тэрыторыях.

Прапануецца таксама распрацаваць і ўкараніць сістэму добраахвотнай экалагічнай сертыфікацыі экатурыстычнага прадукта, запусціць адмысловы сайт пра беларускі экатурызм, а таксама інтэрактыўны інтэрнэт-партал "Віртуальны тур па запаведных тэрыторыях Беларусі".

Стварэнне экатурыстычных кластараў плануецца на базе Бярэзінскага біясфернага запаведніка, нацыянальных паркаў "Белавежская пушча", "Нарачанскі", "Браслаўскія азёры", "Прыпяцкі" і заказнікаў рэспубліканскага значэння "Чырвоны бор", "Асвейскі", "Спораўскі", "Сярэдняя Прыпяць", "Ельня", "Озеры", "Налібоцкі", "Сялява" з прыцягненнем прадстаўнікоў прыватнага бізнэсу і мясцовага насельніцтва. У рэгіёнах пройдуць экалагічныя фэсты.

Фінансаванне мерапрыемстваў будзе весціся за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў у рамках дзяржаўных праграм, а таксама сродкаў міжнароднай тэхнічнай дапамогі і сродкаў арганізацый, іншых крыніц, не забароненых заканадаўствам.

*БелТА*

# Віцебскі аблвыканкам праіндэксаваў тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі

■ **Сяржук Серабро**

**Новыя фіксаваныя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, якія прадстаўляюцца насельніцтву ўсталяваны рашэннем Віцебскага аблвыканкама №132 ад 10 сакавіка.**

Зараз тарыфы, якія субсідуюцца дзяржавай ў Віцебскай вобласці будуць такія: водазабеспячэнне — 0,5322 рубля за кубаметр; каналізацыя — 0,3554 рубля за кубаметр; тэхнічнае абслугоўванне ліфта — 1,19 рубля з кожнага хто пражывае; капітальны рамонт — 0,0883 рубля за квадратны метр агульнай плошчы жылога памяшкання; тэхнічнае абслугоўванне — 0,1004 рубля за квадратны метр агульнай плошчы жылога памяшкання.

Пры поўным пакрыцці эканамічна абгрунтаваных выдаткаў на ЖКП плаціць прыйдзецца значна больш: за водазабеспячэнне — 0,83 рубля за кубаметр; за каналізацыю — 0,6556 рубля за кубаметр; за ліфт — 1,33 рубля з кожнага, які пражывае; за тэхнічнае абслугоўванне дома — 0,1155 рубля за квадратны метр агульнай плошчы жылога памяшкання.



■ Л. Катовіч,
*памочнік урача эпідэміёлага Глыбоцкага РЦГЭ*

# У Глыбоцкім раёне ў 2016 годзе захворванне актыўнымі сухотамі павялічылася ў 2 разы ў параўнанні з 2015 годам

## 24 сакавіка ўвесь свет адзначыў Сусветны дзень барацьбы з сухотамі (туберкулёзам)

**Штогод 24 сакавіка ўвесь свет адзначае Сусветны дзень барацьбы з сухотамі (туберкулёзам), тым самым звяртаючы ўвагу сусветнай супольнасці на сур'ёзнасць праблемы, на неабходнасць сумеснай працы ўсіх дзяржаў па прафілактыцы, раннім выяўленні, лячэнні, папярэджанні распаўсюду гэтага падступнага захворвання.**

Сухоты – адно з інфекцыйных захворванняў, якое найболей часта сустракаецца з глыбокай старажытнасці. Сотні гадоў чалавецтва змагаецца з гэтай інфекцыяй. Яшчэ за 2000 гадоў да нашай эры па Вавілонскіх законах дазвалялася развесціся з жонкай, калі яна захварэла на сухоты, а ў старажытнай Індыі нават забаранялі жаніцца на хворай сухотамі. У V ст. да н.э. Герадот (старажытнагрэцкі гісторык, "бацька гісторыі") паведамляў, што ў Персіі сухотніцаў і залатушных хворых ізалявалі, забаранялі ім жыць у гарадах і мець зносіны з насельніцтвам.

Падрабязней сухоты сталі вывучаць у другой палове XVII стагоддзя. Сучасны этап у барацьбе з сухотамі пачаўся з 1882 г., калі нямецкі бактэрыёлаг Роберт Кох паведаміў аб адкрытым ім узбуджальніку захворвання – мікабактэрыі сухот. У 1982 годзе, у сувязі са стагоддзем адкрыцця Роберта Коха, Сусветная арганізацыя аховы здароўя і Міжнародны саюз барацьбы з сухотамі і хваробамі лёгкіх прапанавалі лічыць 24 сакавіка афіцыйным Сусветным днём барацьбы з сухотамі.

Крыніцай заражэння з'яўляецца хворы актыўнымі сухотамі лёгкіх. Пры кашлі, гутарцы, чханні хворыя людзі вылучаюць у паветра вялікую колькасць бактэрый, якія могуць працяглы час заставацца ў памяшканні, якое дрэнна ветрыцца, і трапляць у арганізм здаровага чалавека.

Першымі сімптомамі і прыкметамі захворвання сухотамі з'яўляюцца:

● працяглы кашаль – сухі ці з вылучэннем макроцця (больш за 3 тыдні), часам з прымешкай крыві;

● страта апетыту, зніжэнне масы цела;

● агульнае нядужанне, слабасць, патлівасць (асабліва па начах), зніжэнне працаздольнасці, стомленасць;

● перыядычнае падвышэнне тэмпературы цела, болі ў грудзях.

Адзінымі спосабамі выявіць хваробу на ранніх стадыях развіцця захворвання з'яўляецца флюараграфічнае (ці рэнтгеналагічнае) і бактэрыялагічнае даследаванне. Штогадовыя флюараграфічныя агляды – надзейны і бяспечны метад выяўлення сухот лёгкіх і іншых захворванняў органаў грудной клеткі, асабліва пры наяўнасці фактараў, якія зніжаюць супраціўляльнасць арганізма.

Таксама ў нашай краіне праводзіцца спецыфічная прафілактыка сухот – вакцынацыя нованароджаных.

У Глыбоцкім раёне ў 2016 годзе захворванне актыўнымі сухотамі павялічылася ў 2 разы ў параўнанні з 2015 годам. Сярод выпадкаў ізноў выяўленых актыўных сухот паталогія органаў дыхання склала 100%. Выпадкі захворвання сухотамі сярод дзяцей у 2016 годзе не рэгістраваліся.

У 2016 годзе ўзровень захворвання на сяле ў 1,5 раза вышэй, чым у горадзе. З агульнага ліку захварэлых 80% – склалі мужчыны, і 20% – жанчыны. У мінулым годзе зарэгістравана 2 смяротных зыходаў ад сухотаў.

Эпідэмічная сітуацыя па сухотах застаецца напружанай. Першым чынам гэта звязана з тым, што часцей рэгіструюцца лекава – устойлівыя формы мікабактэрый сухот. Групамі рызыкі па захворванні сухотамі з'яўляюцца мігранты з краін з высокім узроўнем распаўсюджанасці сухот, ВІЧ- інфікаваныя, а таксама асобы, якія прыбылі з месцаў пазбаўлення волі. Сацыяльна-ненадзейныя кантынгенты насельніцтва, так званыя асобы сацыяльнай рызыкі, з цяжкасцю прыцягваюцца да абследвання і лячэння, сярод іх дыягнастуюцца формы сухот з бактэрыявыдзяленнем, што ўяўляе небяспеку заражэння для навакольных.

Міжнародны досвед пераканаўча паказвае, што паспяховая барацьба з сухотамі магчымая толькі пры аб'яднанні ўсіх сіл грамадства.

Веданне асаблівасцяў перадачы сухотнай інфекцыі і яе праяў неабходна кожнаму чалавеку, кожнай сям'і, бо своечасовае прыняцце мер прафілактыкі можа прадухіліць не толькі перадачу інфекцыі, але і развіццё захворвання.

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай іспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Здабыў аднаго шчупака, які пацягнуў на 1357 рублёў!

Нягледзячы на ўсе капрызы надвор'я, вясна паступова ўступае ў свае правы. Усё цяплей свеціць сонца, з кожным днём больш з'яўляецца птушак, у якіх настае вясновы шлюбны перыяд. Зямля, паветра, вада, лес – усё прачынаецца ад зімовага сну. З 10 красавіка наступіць час вясновага абмежавання на лоўлю рыбы, у сувязі з вясновым нерастам і падоўжацца абмежаванні да 8 чэрвеня ўключна. Аднак нягледзячы на ўсе забароны і абмежаванні, значна ўзрослыя грашовыя штрафы, браканьеры працягваюць рабіць сваю чорную справу. Днём і ўночы, рознымі незаконнымі спосабамі і сродкамі спрабуюць здабыць рыбы.

Надвор'е сёлета асабліва не цешыць цяплом, але шматвяковы інстынкт усё адно вядзе рыбу да месцаў нерасту, каб адкласці ікру і даць жыццё чарговым статкам плоткі, шчупака, акуня, і так будзе заўсёды, нягледзячы ні на якіх браканьераў. Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ў вясновы перыяд працуюць практычна без выхадных. Штотыдзень затрымоўваюцца дзясяткі парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, браканьераў. Вядома, затрымаць усіх парушальнікаў не магчыма, але калі мы ўсёй грамадою станем на абарону нашай прыроды, то ў вайне з браканьерамі пераможам.

Супрацоўнікі інспекцыі заўсёды ўдзячныя грамадзянам за дапамогу, за любую інфармацыю аб браканьерстве. Толькі ў перыяд з 18 па 26 сакавіка супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрымалі 12 парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства.

Так, 22 сакавіка 2017 года каля 17 гадзін на рацэ Мнюта паблізу в. Жукі Горныя Шаркоўшчынскага раёна інспектары затрымалі мясцовага жыхара грамадзяніна М., які з дапамогай трох лесачных сетак паспеў здабыць адну асобіну шчупака, але далейшыя яго незаконныя дзеянні спынілі інспектары. Зараз парушальніка чакае раённы суд і штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь ці ад 460 рублёў да 1150 рублёў, а таксама пакрыццё шкоды за здабытага шчупака ў памеры 9 базавых велічынь ці 207 рублёў.

Такіх прыкладаў мы будзем яшчэ прыводзіць шмат, але іх будучым героям варта задумацца.

Будзем спадзявацца, што іншым браканьерам урок пойдзе ў прэзапас, а калі не, то інспектары яго пададуць яшчэ раз, з задавальненнем.

У адной індыйскай мудрасці ёсць такія словы: калі чалавек высеча апошняе дрэва, атруціць апошнюю раку, знішчыць апошняга звера, тады ён зразумее, што грошы есці нельга. Удумайцеся: залатыя і мудрыя словы сказаны яшчэ тысячы гадоў назад, але і ў наш час вельмі актуальныя.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян, неабыякавых да захавання прыроды, аказаць дапамогу ў барацьбе з браканьерствам.

**Тэлефоны інспекцыі "гарачая лінія"** : 8-02156-5-59-80, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

■ А. В. Сіўко,
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе.*

# Рыхтуемся да навальнічнага сезона!

**Адным з небяспечных праяў навальніцы з'яўляюцца разрады маланкі, якія ствараюць імпульсныя перанапружанні ў сетках энергазабеспячэння, у выніку чаго адбываюцца пашкоджанні электраўстановак і электронных прыбораў.**

Акрамя таго, разрады маланкі нясуць энергію парадку сотняў мегаджоўляў і могуць прыводзіць да катастрафічных наступстваў – гібелі людзей і жывёл, пажараў і разбурэнняў.

У сувязі з набліжэннем навальнічнага сезона ў мэтах прадухілення парушэнняў электразабеспячэння і няшчасных выпадкаў ад атмасферных перанапружанняў на прадпрыемствах, якія маюць на сваім балансе паветраныя лініі электраперадач і трансфарматарныя падстанцыі, неабходна:

● праверыць адпаведнасць патрабаванням ТКП 339-2011 і ТКП 181-2009 схемы расстаноўкі навальнічных абарончых прылад на паветраных лініях электраперадачы і электрападстанцыях прадпрыемства.

● правесці верхавы агляд паветраных ліній электраперадачы.

● падключыць маланкаразраднікі, адключаныя на зіму.

● праверыць існыя габарыты перасячэння паветраных ліній высокай напругі паміж сабой і ліній напругай да 1000В.

● не дапушчаць уключэнняў новых электраўстановак без сродкаў маланказасцярогі там, дзе яны патрабуюцца.



Электраўстаноўкі Спажыўцоў павінны мець абарону ад навальнічных і ўнутраных перанапружанняў, выкананую ў адпаведнасці з патрабаваннямі дзейсных тэхнічных нарматыўна-прававых актаў. На прадпрыемствах, якія маюць на сваім балансе паветраныя лініі электраперадач і трансфарматарныя падстанцыі, па навальнічных абаронных прыладах, якія знаходзяцца у эксплуатацыі, павінны быць наступныя сістэматызаваныя дадзеныя:

– аб расстаноўцы вентыльных разраднікаў, а таксама аб адлегласці ад трубчастых разраднікаў да лінейных раз'ядналнікаў і вентыльных разраднікаў;

– аб перасячэнні ліній электраперадачы з іншымі лініямі электраперадачы, сувязі і аўтаблакоўкі, адгалінаваннях ад ВЛ, лінейных кабельных устаўках і іншых месцах з саслабленай ізаляцыяй;

– пратаколы выпрабаванняў і рэвізій маланкаразраднікаўіабмежавальнікаў перанапружанняў; пратаколы замераў супраціву заземлення, трасоў і агляду заземляльных прылад;

– вынікі верхавых аглядаў паветраных ліній электраперадачы.

